# РАДЗІМА

Верш С. КАГАН
Рысунак А. ШАХРАЯ



Радзіма! Знік той час бяздольны!
Як добра мне ў палях раздольных
Тваім паветрам дыхаць вольным
І слухаць шэлест спелых ніў!
Хачу гарэзіць зноў, смяяцца,
Вясёлай песняй заліваца.
Не томіць рух сягоння праца—
У целе новых сіл прыліў.

Радзіма! Як мне дораг кожны
Твой сноп, твой бор, твой луг мурожны,
Калгас твой новы, слуп дарожны,
Твой час жніва і час сяўбы!
За шумныя твае дубровы,
Світанні, песні, дол барвовы
Заўжды няўхільна я гатова
Да самай цяжкай барацьбы.

Радзіма! Край нязнаных цудаў!
Дачка твая, заўжды і ўсюды
Зямлю тваю я славіць буду
І сонца яснае тваё.
Табе, што вочы мне адкрыла,
Сваімі сокамі ўспаіла
І, як дзіця, мяне ўзрасціла,
Належыць ўсё жыццё маё.

З яўрэйскай мовы пераклаў А. Жаўрук.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ
ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
ЛІСТАПАД 1938 г. № 11

# *ПАМЯЦІ С. М. КІРАВА*

*Чатыры годы назад — 1-га снежня 1934 года, ад зладзейскай кулі подлых фашысцка-трацкісцка-бухарынскіх бандытаў і забойцаў загінуў адзін з лепшых большэвікоў, які ўсё сваё цудоўнае жыццё аддаў за шчасце вялікага Совецкага народа—Сергей Міронавіч Кіраў.*

*Таварыш Кіраў быў вучнем вялікага Леніна, верным другам і саратнікам таварыша Сталіна.*

*Ужо на школьнай лаўцы Сергей Міронавіч уключыўся ў рэволюцыйную барацьбу, і ўсё яго далейшае жыццё было жыццём барацьбіта рэволюцыянера.*

*Таварыш Кіраў быў бязлітасны да ўсіх ворагаў. Ён быў просты і даступны да працоўных. Рабочыя называлі яго сваім дарагім другам, любімым таварышам. „Наш Міроныч"—гаварылі аб ім рабочыя.*

*Сергей Міронавіч вельмі любіў дзяцей і заўсёды радаваўся іх поспехамі. Тав. Кіраў выключна чутка клапаціўся аб дзецях, ён умеў проста і зразумела даказаць неабходнасць і цікавасць упорнай работы.*

*Яго яркае і энергічнае жыццё служыць для ўсіх нас прыкладам у нашай рабоце і жыцці. Будзем яшчэ лепш вучыцца, будзем пільнымі, вырасцем стойкімі барацьбітамі за вялікую справу Леніна-Сталіна.*





# ПЕРШАЕ ДАРУЧЭННЕ

(Урывак з кнігі Голубевай „Хлопчык з Уржума").

Сергей і Саня сталі часценька заглядваць да ссыльных. Аднойчы яны асабліва позна заседзеліся ў „доміку пад гарой" пілі гарбату, размаўлялі, слухалі ігру на скрыпцы.

У гэты вечар Сергей упершыню ўбачыў у ссыльных нейкі дзіўны лісток з надрукаванымі на ім цёмнасінімі літарамі. Папера была дрэнная, жоўтага колеру, а сінія літары не зусім роўныя. Сергей зацікавіўся гэтым лістком і адразу-ж спытаў у Спрудэ, чаму лісток так незвычайна надрукован.

— Друкавалі ўручную,—адказаў Спрудэ і растлумачыў Сергею, што гэта рэволюцыйная, нелегальная лістоўка і надрукавана яна на гектографе. А праз тыдзень Сергей і Саня нечакана атрымалі ад Спрудэ сур'ёзнае і важнае даручэнне—паспрабаваць надрукаваць лістоўку.

— Паспрабуем,—у адзін голас адказалі Сергей і Саня.

— Вам прыдзецца самім зрабіць гектограф. Купіце гліцэрыну і жалаціну, ды пабольш. А каб не выклікаць падазронасці, хадзіце ў аптэку па чарзе. Сёння—адзін, заўтра—другі. Памятайце, што ў гэтай справе патрэбна вялікая асцярожнасць,—сказаў на развітанне Спрудэ.

— Будзем асцярожны,—адказаў Сергей.

На другі дзень раніцой, як толькі Сергей прачнуўся, ён адразу-ж стаў збірацца ў аптэку за гліцэрынам.

— Спачатку пайду я, а потым ты,—сказаў ён Саню.

Яны дамовіліся сустрэцца каля васкрэсенскай царквы.

Ва Уржуме была ўсяго адна аптэка—зем-





ская, і змяшчалася яна на Васкрэсенскай вуліцы. Міма гэтай аптэкі Сергей у дзіцячыя гады бегаў кожную нядзелю з прытулку дамоў.

Даўно ўжо Сергей не быў у земскай аптэцы. А зараз ён ішоў туды, каб купіць гліцэрыну для патаемнай друкарні.

У аптэцы ў гэтую раніцу было пуста. Сергей агледзеў паліцы з лякарствамі, шкляныя шары на вокнах, белыя фарфаравыя банкі з надпісамі па латыні. Нічога не змянілася, усё было тут таксама, як і ў дні яго ранняга дзяцінства.

Вось з-за белай дзверы вышаў той самы тоўсты аптэкар—немец Келер.

Ён быў яшчэ без халата,—мабыць толькі што ўстаў з ложка. Аптэкар строга зірнуў на пакупніка праз шкелцы пенсне ў заладой аправе і запытаў чотка вымаўляючы словы:

— Што вам патрэбна? На колькі?

Гэта былі адзіныя дзве фразы, якія ён вымаўляў правільна. Вось ужо дванаццаць год, як ён дзесяткі разоў у год задаваў адно і тое-ж пытанне.

— Гліцэрыну на пятнаццаць капеек,—адказаў Сергей.

Келер дастаў з паліцы маленькі пузырок у жоўтым гафрыраваным каўпачку. Сергей заплаціў грошы, сунуў пузырок у кішэню і вышаў з аптэкі. На рагу ля царквы яго ўжо чакаў Саня. Яны перамігнуліся і Саня, пачакаўшы некалькі хвілін, таксама накіраваўся ў аптэку.

— Што вам патрэбна? На колькі?—запытаў яго аптэкар.

— Гліцэрыну на пятнаццаць капеек.

Так Сергей і Саня пачалі хадзіць за гліцэрынам штодзённа.

Праз тыдзень у кутку свірна пад гурбай сена і старым войлакам была схавана досыць значная колькасць пузыркоў. Але Сергею ўсё здавалася, што гліцэрыну будзе мала. Ён прапанаваў Саню хадзіць у аптэку і па вечарах, калі Келера змяняе яго памочнік—маленькі лысы чалавечак, пра якога ў горадзе гаварылі, што ён не супроць выпіць, водзіць дружбу з гарадавымі і многа хлусіць.

Памочнік правізара ніколі не разлучаўся з белым халатам, нават на рынак за маркоўкай ён хадзіў у халаце для таго, каб усе прымалі яго за доктара і вучонага чалавека. У першы-ж вечар, калі Сергей з'явіўся ў аптэку і папрасіў на пятнаццаць капеек гліцэрыну, памочнік правізара ўхмыльнуўся і падміргнуў:

— Вам для чаго-ж гліцэрынчык, малады чалавек? Для змягчэння твару. Паненкам жадаеце падабацца.

— Не, я гліцэрын унутр прымаю, каб голас далікатным стаў,—адказаў без замяшання Сергей.

Памочнік правізара дастаў з шафы пузырок з гліцэрынам і моўчкі падаў яго Сергею.

# Макарка Навак



*Апавяданне ЯКУБА КОЛАСА*)* *Рысункі А. ШАХРАЯ*

Калі Макарку здаралася вольным часам праходзіць непадалёку ад той горкі, адкуль відаць другая зямля, то ён не мінаў яе амаль ніколі. Узыйдзе на самую верхавіну і запыніцца: два розныя светы ляжаць перад яго вачамі. Адзін свет так вабіць і так радуе яго сваімі шырокімі прасторамі, дзе ўсе дарогі гасцінна расчынены перад ім, і ўсе яны даступны яму. Зусім іншы настрой і іншыя думкі выклікае зямля па той бок граніцы. Ён шмат чаго чуў аб тым, што робіцца там, на той зямлі. Яна часта прыцягвала да сябе яго вочы і думкі. Ён ведаў, што там распараджаецца зямлёй не народ, а паны. Многа там панскіх двароў, шляхецкіх фальваркаў, пазабіраўшых самыя ўраджайныя кавалкі. Макарка ведае, што паны стварылі так званыя „ўсходнія крэсы" і засялілі іх польскімі кулакамі-асаднікамі, а народ, які жыў тут спрадвеку, сагналі з яго зямель. І шмат беднага сялянскага люду пайшло батрачыць у панскія двары і фальваркі, або бадзяецца па гарадах, шукаючы сабе работы і не знаходзіць яе. А над ім, галодным і голым, апякуюцца паны і ксяндзы, гэтыя прабеглыя выжыгі ў чорных сутанах. На пакуце народа будуюць яны сабе рай на зямлі, а яму абяцаюць рай на тым свеце. Нават школ сваіх не маюць там людзі. Дзесяткі тысяч беднай дзятвы астаюцца непісьменнымі, бо няма ім дзе вучыцца і няма ў што адзецца, і абуцца, каб наведваць хоць тыя шляхецкія школкі, што пабудавалі паны і ксяндзы. Такая несправядлівасць моцна абурае Макарку. У іх піонерскім атрадзе не раз вяліся гутаркі аб тым, як лютуе там панская ўлада. Як цяжка жыць беднаму працоўнаму народу пад панскім гнётам. Але Макарка ведае, як і ўсе піонеры, што не век будуць панаваць там паны, бо народ зносіць крыўды і сваё бяспраўе да пары, да часу, бо ён употайку збірае сілу, каб абрушыць яе на сваіх заклятых ворагаў— прыблудаў, бо ў сэрцы народа жывуць светлыя вобразы вялікіх прыяцеляў прыгнечанага люду, яго правадыроў і настаўнікаў—Леніна і Сталіна. Панскае панаванне кончыцца! Ачысціцца зямля ад трутняў-дармаедаў. Макарка ў гэтым не сумняваецца. Аб гэтым сведчыць і яго верш, дзе ёсць такая страфа:

„Пан лютуе, здзекі чыніць,
Ды ён мыліцца:
Стукнуць пана малатком
Па патыліцы".

## II

Жыццё ў прыгранічны мае свае асаблівасці. Яно накладае свой адбітак і на людзей, што жывуць у прыгранічны, вучыць іх дзяржаць вуха востра і зорка глядзець навокал. Кожнаму прыгранічнаму чалавеку вядома, з якою нянавісцю пaглядае сюды пан і яго слугі і навошта могуць пайсці яны, каб толькі нашкодзіць і прычыніць нам ліха. Макарка ведае, што для паноў суседства з намі—тое самае, што для савы, пугача і іншых начніц сонца яснага дня: яно слепіць ім вочы. Вось чаму кожны раз, калі Макарка стаяў на той горцы і ду-

*) Працяг, пачатак чытайце ў № 10.

маў пра паноў, твар яго рабіўся суровым і бязлітасным, і ён падымаў руку і трос на паноў кулаком.

Залатая восень тысячамі дарог ступала, хоць яшчэ і нясмела на зямлю і афарбоўвала яе далі і прасторы неба ў лагодныя тоны нейкага ціхага раздум'я. Тонкая, сіняватая смуга, поўная цеплыні і ласкі, песціла далёкія лясы і купчастыя бярозы, што адзінокімі постацямі абступалі старую і цяпер ужо заглухлую дарогу, бягучы разам з ёю кудысь далёка на захад і на ўсход. Праз невялікія адлегласці мяняліся далі, то звужваліся, сціснутыя лясамі, то зноў расступаліся, адкрываючы цэлы рад новых малюнкаў. Апошнія бабкі жыта і аўса ўжо звезены з калгасных прасторных палёў. Зноў загулі трактары, падгатаўляючы зямлю да прыёму новага насення, а мястамі ўжо вялася і самая сяўба.

Макарка Навак і яго прыяцель Лёнік Атрушкевіч, абодва ў чырвоных гальштуках, варочаліся з школы дамоў. Сёння першы дзень школьных заняткаў. Ўражанні першага школьнага дня, здавалася, засланілі ўсе іншыя інтарэсы і падымалі ў хлопцаў настрой. Ужо адно ўсведамленне таго, што яны— вучні пятага класа, многа значыць. Яны адчувалі сябе амаль дарослымі людзьмі, бо ўжо з пятага класа пачынаецца сур'ёзная навука. Рагатка-ж, якая ляжала на ўсякі выпадак у кішэні Лёнькі, зусім траціла сваё значэнне. Яму нават няёмка было цяпер даставаць яе з кішэні. Ён не забываў пра яе, але загаварыць аб ёй у голас не адважваўся. Вось хіба толькі калі пакажацца які-небудзь звер, дык яе можна будзе пусціць у ход. Хлопцы ішлі вясёлыя, і настрой у іх быў узняты. Яны прайшлі палавіну дарогі. Уся-ж дарога да школы не мела і трох кілометраў. Спускаючыся з горкі, яны згледзелі трактар. З шумам і грукам поўз трактар у бок дарогі, як-бы намерваючыся перарэзаць яе. Трактарам кіравала Марына Кунашка. Адразу можна было пазнаць яе па чырвонай хустачцы, з-пад якой выбіваліся непакорныя русыя кудры.

— З школы ідзеце, хлопчыкі?—весела запытала Марына, спрытна заварочваючы трактар, каб пачаць рэзаць новыя лусты пахучай зямлі.

Макарка і Лёнік прыпыніліся.

— Ці цяжка кіраваць трактарам, Марына? Як відаць пытанне гэтае дужа цікавіла Макарку.

— Як навучышся, дык яно і не цяжка,— адказала вясёлая трактарыстка. Трактар і Марынчына чырвоная хустачка паволі сталі аддаляцца ад дарогі, закрываючыся клубам лёгкага пылу.

*(Працяг будзе.)*



# Саколік

Верш Э. АГНЯЦВЕТ
Рысунак А. ВОЛКАВА

Прысвячаецца Саколіку—сыну адважнай лётчыцы Валенціны Грызадубавай.

Рана, рана ўстаў Саколік,
Ён даўно не бачыў мамы.
Цераз рэкі, горы, поле
Прыляцела тэлеграма.

Сёння у Маскву здалёку
Мама родная прыбудзе,
Выйдзе на вакзал шырокі,—
Вось узрадуюцца людзі!

З ёй Марына, з ёй і Поля—
Мамы верныя падругі;
Хутка падбяжыць Саколік
Скажа ён:

— Вазьмі на рукі!

— Раскажы як ты лятала?
Мама весела ўсміхнецца:
— Вырас як, я ледзь спазнала
І прытуліць блізка к сэрцу.

Вырас ён за цэлы месяц.
Два гады Саколік мае,
Паляцеў-бы аж пад месяц.
Ды бабуля не пускае!

Добра мець такую маму,
Што нічога не баіцца
І ляціць праз буры прама,
Як адважная арліца.

Не раздружацца ніколі
Тры падругі, гераіні.
Любіць горача Саколік
Цёцю Полю і Марыну.

А мацней за ўсіх на свеце
Любіць ён таго героя,
Хто даў радасць нашым дзецям,
Даў дзяцінства залатое!

Пройдуць годы, і Саколік
Стане сокалам адважным,
Паляціць над морам, полем,—
Снег, тайга яму не страшны.

Паляціць на полюс дальні,
Ён падымецца высока,
І вялікі, мудры Сталін
Скажа:
— Малайчына, Сокал!



# Блакітны кавёр

## ТАДЖЫКСКАЯ ЛЕГЕНДА

Жыў калісьці ў адным кішлаку дэханін Рахім. Быў ён вельмі бедны—не меў ні зямлі, ні вады, толькі і было ў яго тае гаспадаркі, што старая саманная хатка ды тканы блакітны кавёр. Працаваў Рахім у бая, узрыхляў кетменем зямлю, сеяў пшаніцу і меў за гэта ў дзень тры аладкі і жбан халоднай вады. Так харчаваліся яны з жонкаю і дачкою. Жылі яны хоць і бедна, але спакойна і ў згодзе. Вечарамі яны сядзелі на парозе хаты і любаваліся сваім блакітным каўром. Такога каўра не было ва ўсім кішлаку. Вытканы былі на ім блакітныя гарады, зялёныя сады, бірузовае неба і сінія зоркі. Дастаўся гэты кавёр Рахіму ад маткі, а той—ад свае. Гаварылі аб гэтым каўры, што яго выткала пра-пра-прабабка Рахіма і ткала яго з маленства да самай смерці.

Паміраючы яна сказала:

— Беражыце, дзеці, гэты кавёр. У чыім доме ён будзе вісець, таму прынясе ён згоду і шчасце.

І Рахім любіў, захоўваў і аберагаў свой блакітны кавёр.

Але аднаго разу бай, даведаўшыся пра кавёр, пазваў Рахіма да сябе.

— Аддай мне твой кавёр,—сказаў ён.

Рахім падумаў і адказаў:

— Як-жа я магу аддаць сваё шчасце? І нашто табе яно? У цябе ўсё ёсць—і зямля твая, і вада твая, і бараны. Не, не аддам я табе каўра.

Бай зазлаваў і прагнаў Рахіма са двара. З таго часу Рахім пачаў з кожным днём прыносіць дадому ўсё менш хлеба і вады. Галодна стала ў хаце Рахіма.

Аднаго разу, калі не было чаго есці, Рахім задумаўся. Думаў ён думаў, і назаўтра пайшоў на поле.

— Слухай, поле,—сказаў ён.—Гэта я, Рахім. Ты мяне даўно ведаеш. Даўно і я цябе ведаю. Кожны год я ўзрыхляю цябе кетменем. Калі ласка, дай мне крыху зямлі.

Але поле уздыхнула і сказала:

— І рада-б я табе ўслужыць, але бай, пан мой, даведаецца і зазлуе на мяне. Ідзі лепш адгэтуль хутчэй!

Але Рахім не паслухаў. Ён насыпаў два мяшкі зямлі і аднёс яе да свае хаты. Там ён высыпаў зямлю ля парога і пайшоў к пшаніцы.

— Слухай, пшаніца,—сказаў ён,—ты мяне ведаеш даўно, і я цябе ведаю даўно. Гэта я, Рахім, што засеяў цябе вясною. Дай мае крыху зярнят. Я хачу засеяць сваё маленькае поле.

Але пшаніца палахліва замахала каласамі і зашаптала:

— Цішэй, цішэй! Можа пачуць наш пан. Ідзі лепш хутчэй адгэтуль!

Але Рахім не паслухаў. Ён вырваў два пучкі каласоў і пайшоў дадому.

Ён пасеяў пшаніцу ля парога і ўночы пайшоў к арыку.

— Слухай, арык,—сказаў Рахім,—ты мяне ведаеш даўно, і я цябе ведаю даўно. Гэта я нашу тваю ваду ў байскі дом. Дай мне крыху вады паліць маё маленькае поле.

Але арык моцна зажурчэў:

— Згодна закону мая вада належыць баю. Ідзі лепш, а то цябе ўбачыць пан мой!

Але Рахім не паслухаў, наліў вадою два жбаны і панёс дадому. Ён паліў свой пасеў вадою і пачаў чакаць ураджаю.

Не прайшло і двух месяцаў, як ля парога рахімавай хаты вырасла густая пшаніца. Рахім сабраў зерне, змалоў яго і яго жонка напякла аладак.

У гэты час бай рашыў абыйсці свае ўладанні.

Вышаўшы ў поле, ён убачыў невялічкую ямку. Бай раззлаваўся і закрычаў на ўсё поле:

— Куды дзелася зямля з гэтай ямы?

Поле спалохалася і сказала:

— Гэта не я... Гэта Рахім прышоў і сілаю забраў крыху зямлі.

Бай пайшоў далей і ўбачыў, што нехапае каласоў у яго пшаніцы, а ў арыку стала менш вады.

Тады бай, апанаваны злосцю, пайшоў к Рахіму. А там толькі што спяклі аладкі і смачна пахла свежым хлебам.

Бай закрычаў яшчэ на парозе:

— Ты ўкраў маю ваду, пшаніцу і зямлю! Вось я пасаджу цябе ў турму! Ты еў хлеб з мае пшаніцы! Я вазьму ў цябе твой кавёр. І я зраблю гэта згодна закону.

Ён зняў кавёр са сцяны і панёс, а яго слугі схапілі Рахіма і пасадзілі ў турму.

Рахім і сам не ведаў, колькі часу прасядзеў ён у турме. Вочы яго адвыклі бачыць, ногі адвыклі хадзіць.

Урэшце, дзверы турмы адчыніліся і ён вышаў на вуліцу. Ледзь дайшоў ён да свае хаты і спыніўся, не верачы вачам: навакол валяліся толькі кавалкі саманнай цэглы.

Пайшоў Рахім к суседзям, і суседзі сказалі яму, што жонка яго памерла з гора, дачка пайшла невядома куды, а хата апусцела і разбурылася.

З сэрцам, ахопленым гневам, пайшоў Рахім к баю і ўбачыў на сцяне ў бая свой блакітны кавёр. У доме бая чуваць былі песні, там была весялосць і шчасце.

Яшчэ больш разгневаўся Рахім і крыкнуў на ўвесь кішлак:

— Няма праўды на зямлі! Пакуль жывы хоць два чалавекі, адзін будзе гаспадар, другі—слуга, адзін будзе шчаслівы, другі—нешчаслівы.

І рашыў Рахім пайсці назаўсёды ў горы, каб ніколі больш не бачыць ніводнага чалавека.

Ён астаўся жыць у гарах. Да яго прыходзілі дзікія козы і давалі яму малако, пчолы прыносілі мёд у яго пячору, а горны арол дзяліўся з ім часткаю здабычы.

Рахім забыўся пра людзей. Толькі адзін раз, праз многа гадоў, калі ён ужо пастарэў і барада яго пасівела, ён запытаў у арла:

— Што робіцца на зямлі? Ці ёсць там яшчэ людзі?

— Ёсць,—адказаў арол.—Але яны ваююць і забіваюць адзін аднаго.

І Рахім узрадаваўся: ён падумаў, што скора на зямлі не будзе зусім людзей.

Прайшло яшчэ многа гадоў. І раніцою аднойчы Рахіма пабудзілі глухія ўдары...

Рахім убачыў людзей—гэта яны ўзрывалі скалы. У гневе ўскочыў ён, гатовы бегчы ў глыб гор. Але раптам погляд яго спыніўся на даліне, якую раней засланялі скалы. Там, дзе раней жаўцелі мёртвыя пяскі пустыні, у блакітнай даліне зелянелі сады і палі, уздымаліся белыя і блакітныя гарады. Усё было таксама, як на цудоўным каўры. І Рахім, не памятаючы сябе, пабег на ніз, каб бліжэй разгледзець свой кавёр.

Але сышоўшы з гары ён падумаў:

„Гэта проста здалося мне; у сінім ранішнім тумане зямля паказалася мне каўром“.

Але зямля была такая прыгожая, так прыемна пахлі сады, так зелянелі палі, што ён пайшоў далей.

Неўзабаве ён замарыўся і захацеў піць. І ў гэты час ён убачыў арык.

— Я хачу піць,—сказаў Рахім.—Але хіба можна піць бедняку з байскага арыка? Мяне зноў пасадзяць у турму.



Але арык заплёскаў у берагах і сказаў:

— Пі, добры чалавек! Згодна новаму закону мая вада належыць усім дэхканам. Пі, колькі хочаш!

Дзіўна стала Рахіму, але ён напіўся вады і пайшоў далей.

Навакол шалясцела і калыхалася пшаніца. Рахім адчуў голад.

— Я змог-бы ўзяць зярнят,—сказаў ён,—але гаспадар зноў пасадзіць мяне ў турму.

І тут пшаніца раптам зашалясцела:

— Бяры зерні, добры чалавек. Згодна новаму закону я належу ўсім дэхканам.

Рахім здзівіўся і пайшоў далей.

Тут ён убачыў вялікае поле і на ім многа людзей. Зямля была чорная, тлустая, а людзі працавалі, смяяліся і пелі.

Рахім здзівіўся і сказаў:

— З чаго яны так радуюцца? Хіба добра працаваць на байскім полі?

І раптам яму сказала поле:

— Згодна новаму закону, зямля належыць усім дэхканам, а бая даўно ўжо няма.

Рахім не паверыў і запытаў у людзей:

— Хто гаспадар гэтай зямлі?
Яны спачатку не зразумелі яго, а пасля сказалі:
— Хіба ты не ведаеш? Мы ўсе гаспадары гэтай зямлі.
Рахім пайшоў далей, поўны здзіўлення.
Ён увайшоў у кішлак і ўбачыў новыя прыгожыя дамы. Адзін дом быў большы і прыгажэйшы за ўсе. Рахім падышоў бліжэй і ўбачыў многа дзяцей. Сярод двара ляжаў блакітны кавёр, а на ім забаўляліся самыя маленькія дзеці.
Доўга стаяў Рахім і глядзеў на дзяцей. Ён успомніў і сваё жыццё, і маленькую дачку сваю, і цяжкую працу ў бая. І сам не заўважыў Рахім, як заплакаў.
— Чаго ты плачаш, стары чалавек?—запыталі ў яго дзеці.
— Я плачу ад радасці,—адказаў Рахім.—Нешта здарылася са старой зямлёю. Усё на ёй змянілася. Зямля, вада і пшаніца належаць усім дэхканам, а дзеці гуляюць на блакітным каўры шчасця.
І ён запытаў:
— Хто тут у вас у кішлаку галоўны?
Дзеці павялі яго па кішлаку прама к байскаму дому.
Рахім увайшоў, але замест бая ён убачыў жанчыну, якая сядзела і размаўляла з дэхканамі.
Рахім угледзеўся ў яе рысы і раптам пазнаў у ёй сваю прапаўшую дачку. І дачка пазнала яго, узрадвалася і сказала:
— Садзіся, будзь госцем, бацька. Я зараз уладжу спрэчкі паміж гэтымі дэхканамі.
Яна пачала гаварыць і абмяркоўваць справу і неўзабаве прымірыла дэхкан, і яны пайшлі, абодва задаволеныя. Стары Рахім слухаў мудрыя словы свае дачкі і заплакаў у гэты дзень другі раз.
Дачка здзівілася і запытала:
— Чаго ты плачаш, бацька?
— Ад гордасці,—адказаў Рахім.—Хто-б гэта мог падумаць, што жанчына, дачка бедняка, можа быць дзе-небудзь галоўнай!
— Згодна новаму закону,—адказала дачка,—кожны, каму давяраюць дэхкане, можа быць галоўным.
Тады Рахім жвава ўскочыў і ўскрыкнуў:
— Што-ж гэта за закон і адкуль ён ўзяўся?
Дачка нічога не сказала бацьку, але ўзяла яго за руку і павяла ў свой дом.
Яна разаслала каўры, паставіла жбаны, поўныя віна, прынесла круглы кацёл з пілавам, і блюды са смажаным барашкам, і дыні, і вінаград, і спелыя гранаты. Тут-жа палажыла яна белыя аладкі. Потым дачка Рахіма пайшла па кішлаку з дома ў дом, яна звала ўсіх дэхкан да сябе ў госці. Прышлі старыя і маладыя, мужчыны і жанчыны, і дачка Рахіма пасадзіла іх на каўры вакол бацькі. Яны елі і пілі і віталі Рахіма. А адзін з іх, знатны пявец-маддах, ударыў па струнах дутары і запеў. Ён спяваў пра бітвы за свабоду, пра жорсткую барацьбу, пра неўмірушчага Леніна. Рахім слухаў і раптам убачыў перад сабою краіну ў дыме і агні, а дачку сваю і дэхкан свайго кішлака і яшчэ многа народа—на поле бітвы. Яны біліся, уміралі і перамагалі ворага. А сярод ворагаў убачыў Рахім старога бая. Потым разышоўся дым, пагас агонь, і на зямлі пачалі працаваць свабодныя людзі. І Рахім бачыў, як зазелянелі палі, як зацвілі сады, выраслі блакітныя гарады.
— І тады быў дадзен людзям новы закон,—так скончыў маддах сваю песню.
І тут Рахім заплакаў трэці раз у гэты дзень.
— Чаму-ж ты плачаш?—запыталі яго дэхкане.
— Я плачу,—адказаў Рахім—ад сораму, што ўсе гэтыя годы я не быў з вамі. Але скажыце мне, прашу вас: хто-ж той вялікі з вялікіх, што даў людзям новы закон на зямлі?
— Ты праўдзіва кажаш, бацька,—сказала дачка Рахіма.—Вялікі з вялікіх даў людзям новы закон на зямлі.
І імя яго—СТАЛІН.







# ПРЫСЯГА

*Верш Л. КРУЦІЛАВА. Я. АЎТУШКОВА.*

У засеках поўных
Буйныя зерняты,
Мяса, мёд і сала
На стале стаіць,

Радасць і багацце
У калгасных хатах—
Весела сягоння
І шчасліва жыць!

У Мікіты ў хаце
Чыста і прыбрана—
Госці прыдуць скора
Да яго за стол.

К радаснаму святу
Добра і старанна
Выбелены сцены,
Выбелена столь.

Напякла, зварыла
Гаспадыня страву,
Сораму не будзе
Ад людзей сваіх,

Усіх чакае месца
На шырокай лаве:
Юнакоў гарачых
І дзядоў сівых.

У прасторнай хаце
Радасць як ніколі,
Цешыць гонар сёння
Сэрца ў старых.
Вось ужо чацверты
Іхні сын Мікола
Ў армію паедзе
Да братоў сваіх.

„Дарагія госці,
Сёння гонар маю—
Сын на страх варожым
Вырадкам усім
Вартаваць граніцы
Нашы ад'язджае...

Сваё званне, сынку,
З гонарам нясі!
Як паткнецца вораг—
Не прамаж ніколі,
Будзь стралком ты меткім
Першым у страю,
Поўны сіл, адвагі,
Гартаванай волі,
Барані краіну
Родную сваю".
Устае Мікола
І адказ трымае
Перад бацькам родным
Пры ўсіх гасцях:
"Комсамольскім словам
Вам я прысягаю—
Не дарма трымаю
Пераходны сцяг;
Працаваў я чэсна
І, як свае вочы,
Зберагаў шчаслівы
Наш калгасны лад,
Вартаваць радзіму
Буду днём і ноччу,
Каб не змог напасці
Які-небудзь гад.
Калі трэба будзе —
Галавы не шкода
За жыццё, за радасць,
Што даў Сталін нам.
Застануся верным
Я свайму народу,
Маладое сэрца
За яго аддам!"

---

# Васька верабей



*Апавяданне М. ЛЫНЬКОВА*

*Рысункі А. ВОЛКАВА.*

Ужо трэці месяц, як Васька ў комсамольскай роце. Мянушка Верабей цвёрда пайшла за ім яшчэ з прыймовай камісіі. Адзін з дактароў, сухлявы, тонкі, зірнуў пагардліва на яго і не дачуўшы толкам прозвішча, буркнуў сярдзіта:

— Таксама ваяка! Ляці дамоў, верабей!

Васька паглядзеў на яго як на буржуйскую гідру, гучна пацягнуў носам, памянуў пра нейкую клісцірную трубку, і з самым рашучым і незалежным выглядам падышоў да другога члена камісіі, чалавека ў ваенным.

— Так што жадаю ў армію... Да... І непаменна каб кулямётчыкам... Іначай і не магу...—торапка гаварыў ён, адчуваючы, як пачынае здаваць яго рашучасць, пачынае дрыжэць голас. Спяшаючыся і хвалюючыся, даставаў ён з кішэні прамасленага пінжака даведку з комсамола.

— Вось і паперка ад ячэйкі... Вот тут сказана, што я мабілізаваны і што мне восемнаццаць год...

— А дазвол ад бацькоў?

— Бацькоў не маю...—і чамусьці густа пачырванеў.—Так што сам па сабе, а комсамол дазваляе.

Хутка выпаліўшы ўсе свае аргументы, Васька скоса зірнуў: а што, калі раптам гэты чалавек возьме яго пад сумненне ды патрабуе гэтыя ненавісныя паперкі. Бяда з імі, з паперкамі. Тут рост крыху падводзіць, а тут яшчэ колькі клопату было ў ячэйцы з недастаючым годам. Колькі-то давялося папрасіць у хлопцаў. Урэшце, якая ім справа да гадоў, калі, як ніяк, пяты год працуе ён у швачнай майстэрні, а там яго узростам не так ужо і цікавіліся. А тут яшчэ пра бацькоў пытаюць... Як-жа, скажы ім пра матку... Яна, матка, канешне яго не ўтрымае, павінна зразумець усю справу... Але-ж слёзы будуць, нідзе ад іх не дзенешся, такія ўжо нашы маткі, бяда з імі... І шкада, канешне, іх...

Васька пазіраў з-пад ілба, чакаў. Надзея і адчай яўна сваціліся ў ваччу, змяняючы адно другое. Ільняныя віхры недарэчна лезлі ва ўсе бакі, упрашальная ўсмешка змянялася панурымі зморшчкамі на ілбу, пальцы нецярпліва церабілі гузік кепкі, і ўвесь Васька быў падобны на сапраўднага вераб'я, гатовага біцца з кім заўгодна, абы толькі не адступаць.

Чалавек у ваенным аглядзеў яго дапытлівым вокам, усміхнуўся, падміргнуў другому чалавеку ў штацкім і запытаў:

— Што-ж нам рабіць з ім?..—хацеў сказаць „з птушаняткам гэтым", але не сказаў і захаваў усмешку ў вуснах.

— Так... Хударлявы занадта... і ростам не вышаў...

— Ну рост не такі ўжо страшны, хлопец яшчэ падцягнецца...

Нібы вечнасць цэлая прайшла, да таго доўгімі-доўгімі паказаліся Ваську гэтыя размовы. І як варам ашпарыла хлопца, калі сказалі яму:

— Ну, ступай...

Ваську было не да жартаў:

— Як гэта ступай? Куды ступай?

— Ідзі ў комсамольскую роту. Залічаны. Ну, задаволены?

Тут Васька выкінуў такое антраша і так крыкнуў: „Прыняты, прыняты!“, што доктар, які аглядаў чарговага хлопца, з перапугу прыставіў сваю трубку не зусім да належнага месца, і ў прыймовай камісіі пракаціліся выбухі рогату.

* *
*

Атрымаўшы вінтоўку і прызначэнне ў роту, Васька, як віхрам падхоплены, імчаў дахаты. Трэба было пагаварыць з маткай. У сенцах, дзе майстраваў заўсёды стялярсусед, ён схаваў вінтоўку пад свежыя і пахучыя стружкі—каб не здарылася чаго з аружжам, яшчэ скрадзе хто—і зайшоў дахаты. Маці прышла з работы і корпалася ля печы, рыхтуючы няхітрую вячэру.

— І дзе толькі бегаеш, ніколі ў пару не прычакаешся цябе да вячэры?

— Справы, мама...

— Якія там справы, абы боты біць...

— Гм, боты...

Васька сядзеў як на іголках. Трэба-ж, урэшце, адпраўляцца ў роту, а як ты пачнеш тут. Чуў Васька пра дыпламатаў, гутарку сваю павёў здалёк:

— Кажуць палякі ў наступленне ідуць...

— Ну, што-ж, галаву сабе зломяць.

— Канешне, зломяць...—згадзіўся Васька і задумаўся, як быць далей, куды гэтую гутарку павесці, каб добры канец быў, каб маці не ўтрывожыць.

— Кажуць, мама, ім буржуі дапамагаюць...

— Ім тое-ж самае будзе што і палякам...

— Канешне,—згадзіўся і тут Васька.

— Трэба, мама, біць іх, каб навек адвучыць чапаць нас...

— А што ты думаеш, пабілі сваіх буржуяў, прыдзе чарга і да іншых! Сілы ў нас хопіць усякую погань дабіць.

— Хопіць, мама...—сказаў Васька з адчаем, не бачачы, як тут бліжэй падыйсці да справы. І ўрэшце, загадзя пачырванеўшы, пайшоў у рашучы наступ:

— Ведаеш, мама, цябе тут абавязкова забяспечаць...

— Ты гэта аб чым?

— Я? У нас цяпер добра забяспечваюць сем'і чырвонаармейцаў... і паёк... Ну, і ўсякая там дапамога...

— Гэта і добра, а як-жа ты думаў, каб



мы пакінулі сем'і так... На тое-ж і наша рабочая дзяржава...

Вот і з'агітуй тут маці. Тады Васька кінуў усякую дыпламатыю і сказаў проста і ясна:

— Ведаеш што, мама? Я запісаўся ў чырвонаармейцы, я сягоння пайду ў казарму, буду там у комсамольскай роце... Усе нашы хлопцы там... каторыя большыя... Іначай нельга...

Сказаў Васька і замоўк. Але на сэрцы стала лягчэй. Галоўнае сказана матцы, сказана без усякіх хітрыкаў. Маўчала і маці. Яна агледзела сына доўгім, уважлівым позіркам. Быў у ім адвечны матчын сум, няўлоўная трывога за чалавечае жыццё, блізкае і дарагое. І неяк неўзаметку здрыгануўся твар яе, нібы цень прайшоў па ім і захаваўся дзесьці ў вачах... І каб схаваць свае слёзы, яна прыхілілася тварам да грудзей сына, абняўшы яго аслаблымі трапяткімі рукамі. Ціха, ціха было ў змрочным пакойчыку і чуваць было, як глуха шарахцелі за падвальным акном крокі прахожых ды зверху, са столі даносіўся звыклы гоман вялікай камяніцы—цмяныя адрыўкі слоў, прыглушаны стук, далёкі дзіцячы плач, адгалоскі ад песні, ад крыку, ад музыкі. І нібы ўслухоўваючыся ў гэты вялікі гоман жыцця, маці сказала сыну:

— Хіба-ж я цябе буду трымаць?.. Ідзі... Хаця ты 'шчэ малады, можна-б і пачакаць... Але твой-жа характар я ведаю, табе лепш відаць, як і што... У нас вунь на заводзе таксама рабочыя каторыя запісаліся ў полк... Што-ж, такі час...

Васька пацалаваў маці і, узяўшы ў сенцах з-пад стружак вінтоўку, пабег на двор. Там ціхенька пастукаў у акно дворніцкай. І калі вышла Насця—яна жыла на адным двары з Васькам—яны пайшлі па вячэрніх вуліцах горада туды, да казармы. Васька беражна нёс вінтоўку, расказваў як трэба класці ў яе патроны, як трэба чысціць, як трэба надзяваць штык.

— Ты думаеш, яна цяжкая? Во паспрабуй, патрымай...

Насця беражна ўзяла вінтоўку, трымаючы яе абедзвюма рукамі. Спыніліся. Дзесьці над імі мякка шалясцела лісце ліпі клёнаў. Непадалёчку цмяна паблісквaў вулічны ліхтар, і яго водбліскі палахліва мільгалі на Насціным твары. Быў ён задумлівы, спакойны.

Ішлі моўчкі. Толькі перад самай казармай Насця сказала яму:

— А нашы дзяўчаты ў санітарны атрад ідуць... Я таксама запісалася у санітарную лятучку... Хутка паедзем на фронт... Мо' сустрэнемся часам... Ну, ідзі...

Развіталіся.

З казармы даносіліся гаманлівыя галасы. Насця азірнулася, каб лішні раз угледзець Васькаву постаць. Ён прамільгнуў на ганку і знік у чорным растворы дзвярэй. Уздыхнула, паволі пайшла дахаты, узіраючыся ў цёмную бездань неба, на якім так урачыста і строга паблісквалі далёкія зоркі.



# ГІСТОРЫЯ ВЛАСА—ГУЛЬТАЯ І ЛАБАТРАСА

Верш В. Маякоўскага

Влас Прагулкін—
мілы хлопчык,
спаць кладзецца апаўночы.
А як ляжа,
бярэ кніжку.
— Пачытаю,—кажа,—крышку.
Як бацькі там
не крычаць—
не прымусяць
яго спаць.
І калі чытаць не можа—
засцілае вочы цень,—
скамячыўшы
увесь ложак,
засынае
ён
пад дзень.
Калі
другая дзетвара,
устаўшы, п'е гарбату,
яму
крычаць бацькі:
— Пара!—
А ён—
храпе заўзята.
Вось пайшлі
другія ў школы—
Влас
пад кран ідзе
поўголы,
каб у школе не драмаць,
Лоб вадой
стаў абліваць.
Без гарбаты
й калача
ён у клас ідзе
не ў час.
Пашагаў
і стаў разіняй:
перад ім на магазіне
шыльда. Нельга абмінаць—
трэба
шыльду
прачытаць!

Прачытаў
спачатку
буквы ён,
выходзіць:
„Куафэр Сымон".
А злева прачытаў
аматар той навук,—
выходзіць „Номыс рэфаук".
Падумаўшы
хвілінак пяць,
пайшоў,
абрыдзела стаяць.
Ступіў ён
некалькі шагоў,
Хутка шыльду
бачыць зноў.
Спыніўся Влас.
Хвілін са тры
быў затрымаўся
ля вітрын.
Ішоў з гадзіну так,
не меней,



прышоў у школу
са спазненнем.
За дзвярмі
пастукаў Влас,—
не пускаюць Власа
ў клас!
„Што-ж чакаць тут
мне не гожа.
Лепш пайду
згульну
у грошы".
Праіграў
адзін пятак,
ды не кінуў справы так.
Словам
не заўважыў Влас,
як прамчаўся
хутка час.
Што-ж рабіць яму—
вядома,
трэба лепш ісці дадому!
Прышоў ён сумны,
крывіцца.
Бацькі глядзяць
і дзівяцца.
— Што з табою,
наш сынок?
— Ды вучыцца я не мог.
Так трашчыць
мне галава,
Ледзь прабыў
урокі два!
Прашу
пісьмо пашліце вы
к настаўніку-мучыцелю!
Напішыце яму:
„Дужа



Нешта сын
наш занядужаў"...
Словам,
вырас гэты Влас—
Гультаіна, лабатрас.
Меў
такі ён
ведаў груз,
Што не мог
папасці ў вуз.
Ледзь на чорную
работу
на завод узялі
потым.
Але Влас
і на заводзе
тыя-ж справы зноў заводзіць:
у людзей—
работы гул,
У Прагулкіна—
прагул.
Гультаю
не да работы.
Власа выгналі
з завода.
Пасля гэтага
Влас скора
быў запіў
з такога гора,
і пад плотам
заўжды п'яны
ляжыць ён
брудны,
ашарпаны.
Дзеці,
не будзьце
такімі, як Влас!
Радасна кнігу вазьміце
і—ў клас!
Кнігі з ахвотай
вучыце,
чытайце!
Змалку мазгі
вы свае развівайце!
Толькі хто з кніжкай
і школай знаём—
Стане
дзён радасных
будаўніком!

Пераклад А. Якімовіча.

# Казка пра разумнага зайца

**Казка І. КІПНІСА**
**Рысункі Н. МАЛЕВІЧА**

Жыў-быў у лесе заяц-бяляк. Пры ім жонка зайчыха і малыя дзеці—пужлівыя зайчаты.

Жылі яны бедна. Капуста была ў іх па святах, а морква і таго радзей. У лесе гаварылі: „Шкада зайца—вельмі ўжо дрэнна жыве". А дапамагчы—ніхто не дапаможа. Але заяц не падаў духам. Не дарма гаворыцца: „Чалавек да ўсяго прывычны". Відаць, зайцы таксама такія...

Доўга прышлося зайцу жыць у беднасці.

Але раптам усё перамянілася. Зажыў заяц па-другому на багатую ногу. Ніхто больш не гаварыў: „Шкада зайца", а ўсе сталі гаварыць: „Вось жыццё ў зайца, як сыр у масле катаецца". Адбылося гэта вось як.

Аднойчы ў халодную асеннюю раніцу зайчыха пачала бурчэць. І муж у яе кепскі, і хата нядобрая, і акно пабітае. Усе звяры ўжо да зімы падрыхтаваліся, усе ўпарадкаваліся, а ў іх у хаце—сорамна казаць—халадэча, вільгаць, з усіх шчылін так і дзьме! Ледзь-ледзь не замерзлі ўначы...

— Нічога,—пачаў суцяшаць яе заяц.—Цяпер я вазьмуся за справу. Папраўлю дах, залатаю дзірку ў акне. Наша хата будзе не горшай, нават лепшай за другіх.

— Не хваліся,—сказала зайчыха,—дзе ты дошкі набярэш, каб акно паправіць. Бачыш якія дзіркі вялікія!

— Дошкі,—усміхнуўся заяц,—тут адной дошчачкі хопіць!

— А дошчачку дзе возьмеш?

— Ужо я ведаю дзе!

Ён разбудзіў старэйшага сына і сказаў яму:

— Мы з табой зараз пойдзем к вялікаму агароду, што за лесам. Там каля плота я бачыў дошчачку. Яна, мне здаецца, нікому не патрэбна, а нам будзе якраз. Я ведаю, ты смелы хлопчык, ты-ж увесь у мяне.

— Пойдзем,—адказаў сын.

І вось яны пайшлі. Ох і нацярпеліся-ж яны страху! Яны ішлі крадучыся ад дрэва да дрэва. Дзе-небудзь скрыпне—яны ў кусты. Хто-небудзь пройдзе—яны заміраюць. Боязна ў лесе беднаму зайцу!

І нарэшце яны дабраліся да агароду. Дошчачка, як была пад плотам, так і ляжала. Нядоўга думаючы, тата-заяц узяўся за адзін канец, а сынок-заяц—за другі. Вось яны яе паднялі і панеслі. Ад дрэва да дрэва, ад кусточка да кусточка, глухімі сцежачкамі неслі яны дошчачку да сваёй хаты. І вось прынеслі яе.

Зайчыха была занята на кухні і нічога не бачыла. А дзеці ўсе выбеглі з хаты і пачалі дапамагаць бацьку прыбіваць дошчачку.

Потым усе пачалі любавацца сваёй работай. Раптам стары заяц нахмурыўся: на дошчачцы было нешта намалявана. Заяц прыглядзеўся: так і ёсць! намаляван вялікі бот, на высокім абцасы з вушкамі.

— Эх, і дурны я!—пачаў сумаваць заяц,—трэба было яе павярнуць ботам к сцяне. Цяпер позна, не адарвеш.

Раптам ён узяўся ў бакі і ўзмахнуў лапкай:

— А між іншым, нічога! Няхай! Зараз усе лясныя жыхары будуць ведаць, што я, бедны заяц, упрыгожваю сваю хату малюнкамі.





А зайчыха ўсё сядзіць у хаце. Там цяпер цёпла, з акна не дзьме. На радасцях яна пачала частаваць мужа смачным абедам, і нават маркоўкі недзе дастала і нарэзала для яго тоненькімі кружочкамі. Значыць, ёй спадабалася мужніна дошчачка. А заяц, наеўшыся, сказаў „дзякуй“ і прылёг адпачыць, таму што ён змарыўся пасля работы.

— Цішэй, дзеткі, не шуміце,—сказала зайчыха,— тата спіць.

І ў доме зрабілася ціха...

Раптам пачулася—стук-стук! І яшчэ раз стук-стук! Зайчыха асцярожна падышла да дзвярэй.

— Хто там?

— Гэта я. Адчыні!

— Хто гэта я? Не пазнаю!

— Я — старой мядзведзіхі малодшы сын.

Зайчыха ад страху так і затрэслася.

— А што табе трэба?

— К шаўцу.

Зайчыха супакоілася, адчыніла дзверы і сказала ласкава:

— Міленькі, тут ніякіх шаўцоў няма.

— Як так!—зараўло медзведзянё,—тры дні я хаджу па лесе, шукаю шаўца. Мне ясна сказалі: шавец жыве там, дзе бот у акне. Нічога я ведаць не хачу, шавец жыве тут! Няхай ён хутчэй паставіць мне набойкі, а то хадзіць няма як! Мы яму за гэта гаршчок мёду дадзім.

— Міленькі ты мой,—сказала зайчыха,—дзе ты бачыш бот у акне?

— А гэта што,—разззлавалася медзведзянё,—што гэта—не бот?—і паказаў на акно.

Зайчыха выйшла, глянула і вачам сваім не паверыла.

Сапраўды, на дошцы ў акне красаваўся вялікі бот. Нічога не зробіш. Яна пачала растлумачваць, што гэта проста так для характва. Раптам, адкуль ні вазьміся—журавель.

— Дзе шавец? Падаць у гэтую-ж мінуту шаўца! Няхай хутчэй здымае мерку! Мне патрэбны доўгія балотныя боты. А я яму за гэта і рыбы нацягаю і жаб. Я не які скупы.

Толькі зайчыха пачала яго угаварваць, як раптам прыбег гарнастай:

— Мілая зайчыха, скажы мужу, мне вельмі патрэбны толькі тапачкі. Такія, каб ад іх сляды на снягу не заставаліся. Толькі хутчэй, зіма на насу. Заплачу колькі папросіць, няхай толькі зробіць.

Зайчыха не ведала, што рабіць. Тут, нарэшце, на шум выйшаў сам заяц. Усе абступілі яго і давай усе разам гаварыць:

— Шавец, пашый!

— Шавец, пачыні!

— Шавец, зрабі!

Заяц задумліва пачасаў левай лапкай правае вуха, потым сказаў:

— Паважаныя грамадзяне, вы прышлі да шаўца. І вы не памыліліся. Дзед прадзеда майго дзеда сапраўды займаўся шавецкім рамяством. Я таксама ў гэтай справе тое-сёе разумею! Але... баюся, што справа не выйдзе. Патрэбен варштат, патрэбны інструменты... дзе ўзяць?

— Дастанем,—зашумелі усе,—мы дастанем!

Нядоўга думаючы, яны правялі сход і парашылі—усё павінна быць дастаўлена для зайца: інструменты, скура, цвікі, таму што без шаўца ў лесе ніяк не абыйдзешся.

Заяц з ахвотай узяўся за вучобу і хутка навучыўся працаваць.

У самай гушчы, на сасне быў вывешан загад аб тым, што ўсім без выключэння забараняецца крыўдзіць ляснога шаўца.

Нават паляўнічыя і тыя не чапалі зайца. Таму што ў лесе абыйсціся без шаўца ніяк нельга.



# Акцябронак снайпер



На зялёнай траўцы,
Бархаце-мураўцы,
Пад чарэшні веццем—
Акцябронак Пеця.
У руках вінтоўка,
Дробна-каліброўка,
А ля лесу ў цені—
Яблачка мішэні,
Цэліцца ён жвава
Быстрым вокам правым.
Куля засвісцела—
Ў цэль у міг папала!
Пеця лоўка меціць!
Рад бязмерна Пеця:
Калі вораг хлыне
Ў нашую краіну,—
Возьме ён вінтоўку,
Каб біць лютых воўкаў.

*Дзяткор МІША СІЛКО*
*Сычкоўская НСШ, Бабруйскі раён.*



# У ЗВЯРЫНЫМ ПАРКУ



*Рысункі Н. МАЛЕВІЧА.*




Вось вясёлыя рэбяты—
бягуны зайчаты,
Крос прабегшы па дарожцы,
асвяжыцца хочуць трошкі.




І старая і сівая
кляча вельмі, вельмі дбае
упрыгожыць морду, рэбры—
і фарбуецца пад зебру.




Сам паважны, дужы леў
„Эскімо“ тут захацеў,—
да ларка закрочыў ён
дзве мартышкі...—круць сіфон!




Маладзейшы хоча быць,—
бараду прышоў галіць
да лісы стары казёл;
з ім-жа друг яго—асёл.

Радактар І. МАСАРСКІ Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА Адрас радакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ
Друкарня імя Сталіна, Менск. 20.000 экз. Зак. № 4130. Уп. Галоўліта БССР № 4610.